„Памятную кніжку Могилёвской Дирекции нар. училищ“.

2) Вельмі цікавым зьяўляецца вучнёускі часопіс „Труд ученика“ №№ 1 і 2 за 1915 г. №№ 3 і 4 за 1916 г.

Выданьне Магілеўскага рэальнага вучылішча.

Тут зьмяшчаліся лірычная вершы, апавяданьні—малюнкі быту, публіцыстычныя і крытычныя артыкулы, навуковыя нарысы вучняў гімназій і рэальнага вучылішча. Найбольш удалымі зьяўляюцца вершы П. Васільева і Л. Калмансона і крытычныя артыкулы Радчанкі.

3) З 1910 г. выдаваўся „Белорусский Учительский Вестник“—штомесячны часопіс для настаўніцтва.

4) У 1917 г. былі выданы „Известия союза учащихся средних учебных заведений гор. Могилева“.

5) К 1 мая 1919 г. Губэрскі Аддзел Народнай Асьветы выдаў зборнік „Кузнецы Коммуны“ 8⁰, 32 старонкі.

VIII. Розныя ўрадавыя і земскія ўстановы, навучальныя і лячэбныя ўстановы, гандлёвыя фірмы, прамысловыя прадпрыемствы, навуковыя і дабрачынныя таварыствы і іншыя організацыі ў концы XIX ст. і пачатку XX ст. друкавалі мноства розных справаздач, каштарысаў, дакладаў, журналаў і прataколаў пасяджэньняў і сходаў, табліц і ведамасьцяй і інш.

**IX. Непэрыодычныя выданьні пасьля Кастрычнікавай Рэволюцыі.**

1. „Отчет Могилевского Губернского Продовольственного совещания“. Выданьне часопісу „Новое хозяйство“. 1919 г.

2. „Отчет Могилевского Уэком Совета Совету Труда и Обороны на 1-е октября 1921 г. 8⁰ ст. 79.

3. „К 11-му Акруговаму Зьезду Саветаў Справаздача аб дзейнасьці Магілеўскага Акруговага Выканаўчага Камітэту Саветаў Рабочых Сялянскіх і Чырвонаармейскіх Дэпутатаў за 1924-25 і 1925-26 г. г.“ 1927 г. 8⁰ ст. 98.

4. „Магілеўшчына да дзесятай гадавіны Кастрычнікавай Рэволюцыі“ 1927 г. 8⁰ ст. 63. Выданьне Акр. Вык. Камітэту.

5. „Отчет о работе Могилевского Городского Совета за истекший 1925 год“ у 1926 г. 8⁰ ст. 20.

6. Тое самае за 1926 г. 8⁰, ст.23, 1927 г.

7. Тое самае за пэрыод ад 21-IV-27 г. да 1-I-1928 г. 8⁰, ст. 35, 1928 г.

8. „Магілеўшчына“ Краязнаўчы зборнік. Выданьне Акрвыканкому і Акруговага Таварыства Краязнаўства. 1927 г. 8⁰ ст. 150.

9. „Дняпроўскія ўсплёскі“ Літаратурны зборнік Магілеўскай філіі „Маладняк“ 1927 г. 8⁰ ст. 72.

10. Зараз друкарня „Саха і Молат“ абслугоўвае чарговыя патрэбы савецкіх устаноў і організацый г. Магілева і атрымоўвае заказы ад установ іншых гарадоў.

М. Ламака.

Выдавец—Інститут Беларускае Культуры

Рэдактар—З. Бядуля.

Члены Рэдакцыі: М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровіч.



# ЗЬМЕСТ.

Цана 30 кап. 332

